Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Серада, 4 чэрвеня 1919 г. № 17.

## Мары вайны.

Тэлеграф прынёс нам трывожную вестку, што немцы адказаліся падпісаць трактат міра.

Гэткае пастанаўленьня немцаў, хоць яно і трывожыць людзёў, але мала мае пад сабою грунту, каб можна была з гэтым поважна лічыцца. Немцы цяпер цалком залежны ад Антанты: флота у іх німа, артылерыя, усё што было лепшага з ёй атладзена саюзьнікам, вагонаў мала, харчоў сваіх ні хапае—адным словам руіна і гібель.

Праўда што хітры нямецкі «Рэйнэкэ Фукс», узяты за вушы, стагнаючы пад цяжкаю лапаю льва—Англіі, робіць усё, каб нешта вытаргаваць і дабіцца хоць трошкі мажлівых для сябе варункаў, каб ні траціць столькі сваёй тэррыторіі.

Ці гэтыя яго выкручываньня, адцягіваньня памогуць—німа ведама, з газэт ясна відаць, што рада чатырох цьвёрда і халодна стаіць пры сваіх вымаганьнях. Не памагаюць ноты пратэста, контр-прапазыцыі графа Брокдорф-Рантцау, бо толькі у драбніцах удаецца немцам зьмяніць тэкст мірнага трактата.

З усіх пунктаў мірнага трактата найбольш немцаў баляць пункты, у каторых сказана аб атдачы Польшчы зямель, якія некаліс да яе належалі. Гэтыя калішнія польскія зямлі і становяць главны нэрв нязгоды. Дзеля гэтага немцы і сабіраюць свае войскі і маняцца ваеваць з Польшчай, каб не алдаць дабравольна зямлі, каторую лічаць за сваю.

Газэты раз у раз пішуць аб бойках паміж немцамі і палякамі, аб пер стрэлках на граніцы, аб нямецкіх тайных вайсковых арганізацыях, каторыя у вопратках звычайных бюргероў будуць бараніць сваю дабычу. Называюць нават камандзіра гэтай арміі Бэлова, каторы пачаў нават ужо працаваць у кірунку падгатаваньня гэнай арміі.

Як ні як а мара вайны ізноў пакалалася...

Аднака трэба сумлевацца ці немцы здалеюць выйграць у гэтай справе. Рэч у тым, што Польшча прызнана Антантай як саюзьнік яе і ніколі Польшчы не пакінуць без помачы. Немцы неоффіцыяльна грозяць Еўропе злучэньнем з расейскімі бальшавікамі, стараюцца тлумачыць што нямецкі народ ніколі не згодзіцца на гэткую опэрацыю, што гатова навет новая рэвалюцыя—але усё гэта дарма. Антанта добра ведае, што тут ходзіць аб Прусcыю, каторая яўляецца главнай віноўніцаю вайны, і больш чым пэўна, што уступак ня зробіць.

Вайна прынясла бы Польшчы карысьць, а немцам гібель. Навет каліб немцы пабілі палякоў, дык і ў такім выпадку нічога бы не памагло, бо Антанта тады здушыла бы немцоў зусім.

На гэтай вайне выйгралі бы так жа і бальшавікі, каторыя пэўне ўраз пашлі бы у наступленьня. Палажэньне Літвы было бы так сама моцна падорвано, бо мусели бы высказацца за каго трымаюць ці за Антанту, што ім суліць незалежнасьць, ці за немцаў, каторыя далі Літве незалежнасьць, але яшчэ дагэтуль седзяць ей на шыі і ніяк не думаюць пакідаць добраго, даходнаго мейсца.

Лішне многа ёсьць даказаў процiў мажлівасьці вайны, каб верыць што такі практычны, зматэр'ялізаваны народ як немцы рынуцца у бой, каторы дасьць ім адно згубу.

Бліжэйшыя дні дадуць нам адказ на гэтае пытаньне.

**Юры Олелькoвіч.**

На гэтае пытаньне ні адзін скэптык ня мог нічога пэўнага сказаць. І вось мы бачым, што бальшавікі жывуць сабе і жывуць. Яны спынілі вайну з немцамі і заключылі з імі гібельны для Расеі мір. Яны абвесцілі новую вайну усім, хто процiў іх, г. ё. усяму сьвету і вядуць яе да апошняй пары, маючы яще надзею, што завоюють увесь сьвет. Ім удаецца арганізаваць „чырвоную" армію, каторая, дарма што кепска дысцыплініравана, ўсёж падчас і добра бьецца с супрацiўнікамі.

Скэптыкі, каторыя не верылі у cілу і моц бальшэвізму, патроху адракліся ад сваіх скэптычных думак і, змучаныя голадам і страхам сьмерці, пайшлі да бальшавізма ў Каноссу. Толькі моцныя духам не здаваліся і гуртаваліся па „акраінам" бышай Расейскай Імпэры, каля розных удатных ці неудатных ваякоў. Гэта так званыя праз бальшавікоў белагвардзейцы.

Цяпер ёсьць тры групы белагвардзейцаў: у Сыбіры, на Урале і на Волзе—Калчакоўцы, на Дану—Денікінцы і ў Фінляндыі—Юдэнічаўцы.

Як паказалі апошнія падзеі, Калчак з сваімі вайскамі аказаўся найдужэйшым і, разбіўшы бальшавікоў на Уральском фронце, ідзе далей, а бальшавікі ня могуць яго спыніць, бо чырвоная армія альбо здаецца ў палон, альбо разбегаецца.

Мы вельмі мала знаем напэўна, чаму Калчак так удатна борэцца з бальшавікамі: ці ў яго вялікае войска, ці можа яно не вялікае, але добра сфармаванае.

Нам здаецца, што Калчак не мог сабраць вялікаго войска, так сама ня мог ён яго і надта добра абеспечыць усім патрэбным. Справа не так у гэтым, як ў тым, што народ на яго старане. Той самы народ, каторы яшчэ нядаўна верыў бальшавікам, цяпер зрабіўся іх ворагам, што даказываецца бунтамі, якія падымаюцца процiў бальшавікоў паўсюды, а больш усяго на Урале і па цэламу Паволжу.

Пералом ў пачуцьці народных расейскіх мас вызначыўся цяпер даволі ясна, асабліва у тых мейсцох, гдзе бальшавікі найдаўжэй панавалі—гэта й Веліка Pасеі.

Дзержавы Антанты, каторыя да апошняй пары ўстрымліваліся ўступаць ў аткрытую барацьбу з бальшавізмам, не бачучы моцнасьці ворагоў бальшавізму, цяпер прызналі гэту моцнасьць, бо ўступілі з Калчакам і яго ўрадам у перагаворы дзеля барацьбы з бальшавізмам. Бальшавізм, катораму часам шанцавало на некаторых франтах будзе цяпер ў Расеі знішчан і загіне напэўна, бо народ расейскі цяпер ясна стаў процiў бальшавізму. Калчак толькі карыстае з настрою народнага, дачакаўшыся добраго часу і знайшоўшы падтрыманьне у Антанты.

*Лук—аш.*

## БАЛЬШАВІКІ І КАЛЧАК.

Хто з нас — перажыўшых расейскую рэвалюцыю з першых яе мамэнтаў, калі замест Нікалая II стаў царстваваць—перш гаварлівы, але наіўны і прыдуркаваты Керэнскі, а потым фанатычны і разбойны Ленін, — хто з нас не задумываўся над тым, калі ўсяму гэтаму будзе канец? Некаторыя людзі, асьцярожныя і скэптычныя, ад пачатку рэвалюцыі казалі, што Керэнскі не доўга працягне. Так сама, калі Ленін скінуў Керенскага, гэтыя самыя скэптыкі сталі гаварыць, што Ленін не утрымаецца і месяцу і яго мае нехта заменіць.

Але хто?

